Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

21 - 27 ЖНІЎНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№34 (174)

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Паляванне за магнітоламі

У ноч з нядзелі на панядзелак пляцоўку аўтатранспарту па вуліцы Міру, 15 наведалі злачынцы. Ускрыта 10 легкавых аўтамабіляў і 1 цягач. Паляванне вялося за магнітоламі і асабістымі рэчамі ўладальнікаў машын.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Зберагчы спадчыну

Плакаты "Чырванакніжнікі Мінскай вобласці" выдалі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і абласны савет Беларускага таварыства аховы прыроды. На адным плакаце прадстаўленыя рэдкія расліны, на другім – жывёлы, узятыя пад ахову. Раённая валожынская інспекцыя размеркавала выданні па школах і бібліятэках Валожыншчыны.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Філарэт у школу не пайшоў

На 50–годдзе першага выпуску школы ў Лебедзеве як сярэдняй навучальнай установы прыехаў мітрапаліт Філарэт. Яго хлебам–соллю сустракала пенсіянерка, былая выпускніца школы Ірына Яновіч. А запрасіў вышэйшую царкоўную асобу таксама выпускнік Лебедзеўскай школы свяшчэннік Леанід Божка.

Філарэт у школу не заходзіў (ішоў другі дзень Успенскага паста). У царкве правёў службу. Там жа з ахвотай гаварыў пра юбілей. Бо сярод ягоных падначаленых – выпускнікі мясцовай школы, акрамя Леаніда Божкі, настаяцель царквы ў Маладзечне Ян Міцько.

У самой школе было сапраўднае свята. З першага выпуску 1948 года з 10 чалавек прысутнічала трое. Выпускнікі праслалі віншаванкі з Польшчы, Венгрыі. Некалькі выпускнікоў прыехалі з Санкт–Пецярбурга. Успомнілі ўсіх настаўнікаў, дырэктараў: Палікарпа Бацюкова, Майсея Раскіна, Аляксея Станчука–Ляўчука...

А Валерыя Качаргіна, які адпрацаваў дырэктарам 25 гадоў, на юбілеі ўрачыста адправілі на адпачынак.

Сённяшні «Стары альбом» раскажа вам аб адной са старонак жыцця Лебедзеўскай школы.

*Васіль САВІЦКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Інтэрнат на 30 зэкаў

Рашэннем Гродзенскага аблвыканкома ў старажытных Варнянах будзе створаны дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў, якія вярнуліся з месцаў пазбаўлення волі.

Інтэрнат будзе першай установай такога роду ў Беларусі і прыме 30 чалавек.

*БелаПАН.*

ВІЛЕЙКА

## Статус – універсал

Урач Куранецкай амбулаторыі **Тарэза Ліпская** адзіная ў раёне, якая мае статус урача агульнай практыкі.

Справа не ў колькасці вёсак, што яна абслугоўвае (Куранецкі, Касціневіцкі, Любанскі сельвыканкомы), а ў разнастайнасці хвароб вяскоўцаў, якія медык паспяхова лечыць.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АШМЯНЫ

## Камбайны едуць з Гродна

Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі **Раман Юроўскі**, які сёлета заняў гэтую пасаду, апынуўся падчас цяперашняй уборачнай кампаніі ў стане сапраўднай барацьбы за ўраджай. Больш за ўсё яго турбуе надвор'е і камбайны. Хуткімі тэмпамі ўбраць збожжа не дазваляе дождж, які ідзе практычна штодзённа. Парк камбайнаў жа, у асноўным, складаецца са старэнькіх "Ніваў" і "Енісеяў". 18–20 з іх штодня ламаюцца. Сваімі сіламі з уборкай не справіцца. Аказаць дапамогу ў вырашэнні гэтай сітуацыі выказалі жаданне шэраг гаспадарак Гродзенскага раёна, якія накіроўваюць на Ашмяншчыну свае камбайны.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Канікулы з богам

Апошнія дні летніх канікулаў для чатырох дзетак з Астраўца пройдуць у крыху незвычайным летніку непадалёку ад Ліды. Там збяруцца дзеці розных узростаў з усёй Гродзеншчыны, якія, у большасці, з'яўляюцца выхадцамі з мнагадзетных сем'яў. Акрамя адпачынку, яны змогуць развучваць рэлігійныя песні, малітвы.

Арганізатарам летніка выступіла гродзенская дабрачынная арганізацыя "Карытас".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*Працягваецца падпіска на «Рэгіянальную газету», якую вы можаце аформіць у любым аддзяленні паштовай сувязі Беларусі. Падпісная цана на месяц – 12 тысяч рублёў.*



ПОЎНЫЯ КІШЭНІ МУЗЫКІ

# Сябрукі


Віктар.


Васіль.

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

***МАЛАДЗЕЧНА. Васіль Руды і Віктар Дмухоўскі сябрукі. Адзін – гарманіст–самавучка. Другі – прафесійны баяніст (скончыў музвучылішча). Адзін жыве ў Мароськах і працуе на цагельні. Калі завод стаіць, ездзіць у горад на "заробкі". Другі, быццам той цыган, мяняе месцы жыхарства (прапісаны ў горадзе, але не можа знайсці агульную мову са сваякамі). І нейкія грошы да пенсіі яму таксама не зашкодзяць.***

Каб не перашкаджаць адзін аднаму, сябрукі граюць у розных месцах побач з калгасным рынкам. Вулічныя музыканты маюць свае прафесійныя сакрэты. Васіль, што сядзіць ля ўвахода, вымушаны часцей, чым можна было б, мяняць мелодыі. Побач гандляры, і адна і тая ж мелодыя каго хочаш давядзе да вар'яцтва. Самае ж "цёплае" месца ўвечары ля кафэ "Белы капрыз". Там кідаюць багата. Аднак музыканты граюць не толькі з–за грошай, яшчэ, каб быць на людзях і ствараць ім настрой. Часцяком ім заказваюць "Паланез" Агінскага, "Развітанне славянкі", "Вернісаж". Дарослыя сваім дзецям – "Чунга–чангу", пешаходаў, якія бягуць па лужах.

Калі Васіль ламае інструмент, ягоны гармонік рамантуе Віктар. Ён і свой цяперашні кіраўскі баян (нядаўна купіў за 150 тысяч) давёў да розуму – за сто метраў чуваць. Вось толькі няма месца, дзе баян пакідаць. У падвале – сыра. У інтэрнаце – можна потым і не знайсці. Таму, бывае, на "работу" сябры ездзяць разам, з Маросек. У гасцях Віктар як бы і не госць. У доме сябра і мэблю рамантуе, і электрапрыборы. Жыццё пакідала – усяму навучыўся.

Бывае, граюць хлопцы, праходзіць побач той жа дырэктар музвучылішча Рыгор Сарока і заўвагі робіць – не ў той танальнасці. А тут хутчэй трэба. Наогул, людзі розныя падыходзяць. Хто 200 рубліў кіне, а хто і вопратку непатрэбную прынясе. Віктару, напрыклад, штучнае футра падарылі, дык ён порткі сабе пашыў, каб не мерзнуць.

У кожнага з іх ёсць свае любімыя творы. Васіль – аматар народных мелодый. Віктар, бывае, плача ад песні ў сваім выкананні "Серёжка ольховая". Сябе лічыць баяністам–сераднякам. А сапраўдным віртуозам – Валеру Лапыцьку з Івянца.

У холад мерзнуць рукі, таму хлопцы напрактыкаваліся граць у рукавіцах. А так – лета, восень, зіма – ім усё адно. Было б для каго граць.

*Васіль САВІЦКІ.*

НА ПАРОЗЕ ШКОЛА

## Перад тым, як напоўніць ранец, напоўні кашалёк

Усё меней дзён застаецца да пачатку навучальнага года. Але праблема, чым і як напоўніць школьны ранец, турбуе амаль ўсіх бацькоў.

Куды пакласці школьныя рэчы?

– Вядома, у ранец, – адкажаце вы.

За звычайны, просты ранец вам давядзецца заплаціць 500 тысяч рублёў. Больш прыгожы, з разнастайнымі кішэнькамі, можна набыць за мільён і больш. А сшыткі? Тонкія каштуюць ад 2300 да 10000 рублёў, агульныя – ад 15900 да 60000. Алоўкі, ручкі маюць самы розны кошт: ад 3 да некалькіх дзесяткаў тысяч. Але куды і іх пакласці? Менш за ўсё каштуюць (11400) невялікія беларускія пеналы, якія закрываюцца зверху лінейкай.

У школе ўсялякае здараецца. Атрымаеш дрэнную адзнаку, а хто першы, як не дзённік, раскажа пра гэта бацькам? Каштуе дзённік 22800 рублёў.

Без малявальных прыстасаванняў таксама цяжка. Фарбы на 8 колераў можна купіць за 15–20 тысяч рублёў, а вялікія шматкаляровыя фарбы абыдуцца да 169000. Альбом – ад 7 да 70 тыс.

Абгорткі для сшыткаў каштуюць ад 600 рублёў да 2 тысяч. Для дзённіка і падручнікаў – ад 9400 да 12000 рублёў.

Па дадзеных Міністэрства гандлю, кошт мінімальнага набору адзення для дзяўчынкі сярэдняга школьнага ўзросту складае каля 2,5 мільёна рублёў. Гэта сукенка або камплект, блуза, джэмпер, туфлі, калготкі, шкарпэткі, спартыўны касцюм і абутак. Для хлопчыка касцюм некалькі даражэйшы – каля 2,8 мільёна рублёў.

Збіраемся ў школу?

*Вольга ПАСЛЕД, вучаніца СШ №1 Маладзечна.*

*Працяг тэмы на 2-й старонцы.*


*Рыхтуем дзетак да школы. Ля аддзела канцтавараў Дома гандлю ў Маладзечне.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

## Санэпід інфармуе

■ З пачатку жніўня адзначаецца рост захворванняў **вострымі кішэчнымі інфекцыямі**, з 7 па 14 жніўня зарэгістравана 37 выпадкаў, з іх у Маладзечне 22 (11 дзяцей і 7 дарослых), у раёне 15 (8 дзяцей і 7 дарослых). Па–ранейшым, асноўнымі крыніцамі захворванняў з'яўляюцца садавіна і гародніна, з іх ужываннем звязваюць свае захворванні 14 чалавек, з мяснымі прадуктамі – 9 чалавек.

■ У сувязі з успышкай захворванняўна **салманелёз** у Драгічыне Брэсцкай вобласці, звязанай з ужываннем недабраякасных крэмавых вырабаў, дзе з 5 па 10 жніўня пацярпеў 61 чалавек, у т. л. 31 – дзеці да 14 год, у Маладзечне спецыялістамі райЦГіЭ праведзеныя праверкі 9 кандытарскіх цэхаў. Сур'ёзныя заўвагі па захаванні санітарных нормаў і правілаў адзначаныя ў цэху кулінарнага камбіната аб'яднання прадпрыемстваў грамадскага харчавання, загадчыца аштрафаваная і эксплуатацыя ўчастка прыпыненая. Таксама на правядзенне бягучых рамонтаў вынесеныя пастановы па цэхах АП рэстаранаў "Маладзечна" і "Папараць–кветка".

■ Звяртаем увагу пакупнікоў на неабходнасць пры куплі кандытарскіх вырабаў запэўніцца ў іх дабраякаснасці, захаванні ўмоў захоўвання пры наяўнасці холаду, тэрмінаў рэалізацыі, указаных на ўпакоўцы тортаў.

■ На правядзенне бягучых рамонтаў вынесеныя пастановы па кандытарскім цэху СП "Міхаэла", хлебапякарні калгаса "Маладзечанскі", д/с.

■ За **парушэнні санітарных правілаў** аштрафаваныя прадпрымальнік С. Н. Пшэнік, заг. дзіцячага садка Аляхновічаў, майстар пральні раддома РКБА.

■ У лабараторыях даследавана 42 узоры харчовых прадуктаў, усе адпавядалі норме, 73 бактэрыялагічныя даследаванні вады, з якіх не адпавядалі дапушчальным нарматывам 4 пробы з артэзіянскіх свідравін (вв. Мойсічы, Капачы, Хажова а/с №3 і 5), 9 і 9 проб вады шахтавых калодзежаў вёсак Дубрава і Аляхновічы, 2 з 2 проб вады р. Уша. На ўтрыманне нітратаў у гародніне даследавана 19 проб, у т. л. 7 проб кавуноў, усе ў межах ГДУ.

■ У радыелагічнай лабараторыі 32 пробы, з перавышэннем 6 узораў: грыбы курачкі вараныя вв. Слабодка і Шылавічы (Вілейскі р–н): 2 пробы з в. Заскавічы, баравікі сушаныя з Іўеўскага р–на, брусніцы в. Хаценчыцы (Вілейскі р–н).

■ Па дадзеных Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, праведзеныя праверкі некантралюемага гандлю, у неўстаноўленых месцах на абочынах дарог, якія набылі сёлета масавы характар, паказваюць, што значная частка грыбоў і лясных ягад перавышае рэспубліканскія дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.*



Дзевяць з дзесяці гадоў навучання ў Лебедзеўскай школе ў мяне прайшло ў яе старым будынку, узведзеным яшчэ за польскім часам, у 1937 годзе. Менавіта тады ўпершыню местачкоўцы пасля доўгіх туляння́ў па сялянскіх хатах, атрымалі сталае месца для вучэбных заняткаў сваіх дзетак. Першым дырэктарам Лебедзеўскай "паўшэхнай" школы (сямігодкі), які пакінуў пасля сябе толькі добрыя ўспаміны, быў **Стэфан Батоўскі**, ён бясследна знік пасля арышту савецкімі карнымі органамі ў 1939 годзе. Другім дырэктарам падчас нямецкай акупацыі быў настаўнік беларускай мовы, літаратуры і спеваў **Пётра Зяновіч**, якога таксама спасціг лёс ягонага папярэдніка. Тут, на радзіме жонкі, выкладаў фізіку і матэматыку сёння сусветна вядомы вучоны **Барыс Кіт**. У пасляваенны час школай кіравалі **Палікарп Бацюкоў, Майсей Раскін**. Маімі дырэктарамі былі **А. Шкуратаў, Аляксандр Гедойць** і **Аляксей Станчук–Ляўчук**. З 1973 года і да гэтага часу школу ўзначальвае **Валерый Качаргін.**

На здымку - святкаванне Калядаў 1938 года вучні малодшых класаў Лебедзеўскай школы са сваім дырэктарам. Стэфан Батоўскі стаіць першы з правага боку ў трэцім радзе.

*Алесь ЦАДКО.*

ФОТА З АЛЬБОМА ГАННЯ ЗЯНОВІЧ

КУЛЬТУРА

## На свята ў Нямеччыну

***ВІЛЕЙКА. Прадстаўнікі мясцовай культуры знаходзяцца ў Германії.***

Узорны дзіцячы духавы аркестр школы мастацтваў, салісты дзіцячай эстраднай студыі "Экспромт", ГДК, работнікі цэнтра эстэтычнага выхавання прымуць удзел у свяце гарадоў Шарандайка і Оберхаузена.

*Аддзел інфармацыі.*

## Прытковы запрашаюць на спектакль

***ВІЛЕЙКА. Перасяленцы з Латвіі Юрый і Тамара Прытковы прыжыліся на беларускай зямлі.***

Сям'я жыве ў вёсцы Лявонавічы. Юрый працуе токарам у калгасе "Зара" і дапамагае жонцы ў творчым пошуку. Тамара, педагог па адукацыі, стварыла дзіцячы лялечны тэатр "Дзюймовачка". Хутка дзеці–артысты паедуць па раёне з новай сваёй пастаноўкай, пятай па ліку.

*Вольга КІРЭЕВА.*

## Лепшыя песні на будпляцоўцы

***МАЛАДЗЕЧНА. Музыканты рок–гурта "Рэактар" атрымалі дазвол у мясцовай улады на правядзенне свайго канцэрта на будпляцоўцы.***

Такая форма ўпершыню выкарыстоўваецца ў горадзе. На будучым адміністрацыйным будынку (хутчэй за ўсё, магазіне, узведзена 2 паверхі) ля інтэрната завода "Спадарожнік" па Ф. Скарыны ў гэтую пятніцу а 19 гадзіне збярэцца моладзь.

Як сказаў гітарыст гурта **Леанід Барценеў**, без пачуцця гумару лепш не прыходзіць. Праграма мае назву "летнія канікулы" і будзе працягвацца 2 гадзіны. На пытанне, ці не будзе гук перашкаджаць адпачынку насельніцтва, хлопцы запэўнілі, што будуць граць ціха–ціха.

*Аддзел інфармацыі.*

*Музыканты задаволеныя такой пляцоўкай.*

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

## Цырк прыехаў!

***МАЛАДЗЕЧНА. У Радашковічах два дні выступаў цырк-шапіто з групай «Вільямс» з Прагі.***

Госці ўпершыню прыехалі ў Беларусь і вельмі былі задаволеныя той цеплынёў, з якой сустракаў іх наш глядач.

*Сяргей ЛІННІК.*

НА ПАРОЗЕ ШКОЛА

# Сёння грошы – заўтра падручнікі

***З гэтага навучальнага года падручнікі і навучальныя дапаможнікі для школьнікаў можна будзе купіць. За поўны кошт. Для гэтага зацверджаны дадатковы тыраж у памеры 10% ад заказу Міністэрства адукацыі. Продаж падручнікаў будзе весціся праз прадпрыемствы, якія гандлююць кнігамі.***

Фіксаваны памер аплаты за карыстанне падручнікамі са школьнай бібліятэкі не змяніўся – ён складае 25% ад кошту камплекта. Агульная сума, зразумела, узрасла, але нязначна. Камплект для першакласніка абыдзецца бацькам у 131- 245 тысяч. рублёў у залежнасці ад мадэлі класа. Плата за карыстанне падручнікамі для 5 класа складзе 164 тысячы рублёў. А самы дарагі камплект для 11 класа абыдзецца сямейнаму бюджэту ў 270 тысяч рублёў. Яго поўны кошт – 1 мільён 81 тысяча.

Не будзе брацца плата за карыстанне падручнікамі з бацькоў, у якіх дзіця – інвалід і навучаецца на даму. Бясплатна будуць карыстацца падручнікамі дзеці ваеннаслужачых, якія загінулі (памерлі) або сталі інвалідамі ў час праходжання ваеннай службы, альбо з сем'яў рабочых і служачых, якія займалі штатныя пасады ў воінскіх часцях у складзе савецкіх войскаў на тэрыторыі дзяржаў, у якіх праводзіліся баявыя дзеянні, а таксама з сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі (памерлі) у мірны час або праходжання ваеннай службы.

Калі ў сям'і ў 1997 годзе даход штомесяц не перавышаў 40% ад сярэднедушавога спажывецкага бюджэту сям'і з 4 чалавек у цэнах верасня 1997 года, то бацькі ад аплаты за карыстанне падручнікамі таксама вызваляюцца.

Паход за даведкамі з месца работы і з сабесу трэба ажыццявіць наперад. Сем'і, дзе жывуць 3 і больш дзяцей школьнага ўзросту, ўносяць толькі палову аплаты за карыстанне падручнікамі. Калі, вядома, іх душавы даход не перавышае 40% ад сярэднестатыстычнага. Некалькі зрушыліся тэрміны аплаты за карыстанне. Цяпер бацькі павінны аплаціць не да кастрычніка, а да верасня месяца. Новыя падручнікі будуць выдавацца пры наяўнасці квітанцыі і меткі аб здадзеных падручніках і дапаможніках за мінулы год.

*Вольга ПАСЛЕД, вучаніца СШ №1 Маладзечна.*

ЮБІЛЕІ

## Гадавіна манастырскага комплексу

***АШМЯНЫ. У Гальшанах адзначана 380-годдзе манастырскага комплексу - аднаго з самых старажытных на Беларусі.***

Да падзеі было прымеркаванае адкрыццё выстаўкі скульптуры і графікі Тамары і Уладзіміра Васюкоў, якая прадоўжыцца да канца верасня.

*Аддзел інфармацыі.*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Не заракайся

У вёсцы Навасёлкі (далучаная да Мядзела, стала адной з яго вуліц) большасць жыхароў мелі ці маюць мянушкі. "Заслужыць" іх не так лёгка. Не кожная прыжывецца на ўсё жыццё і перадасца нашчадкам. Трэба, каб прыкмецілі ў чалавеку штосьці характэрнае, адметнае ў паводзінах, знешнім выглядзе, сямейных абставінах і інш.

Адзін з навасельцаў выхваляўся:

– Да мяне ніякая мянушка не прыліпне.

І прыліпла. Моцна, да яго самога, дзяцей, жонкі. Аднойчы гэты чалавек у кампаніі сябрукоў сказаў:

– Я сёння справіў барнэт.

Хацеў сказаць бarэт (галаўны ўбор), а з вуснаў вырвалася – "барнэт".

Стаў на ўсё жыццё Барнэтам, жонка – Барнэціхай, дзеці – Барнэткі.

Ніколі не заракайся, што мянушка абыдзе бокам, не прыліпне.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*



МУЗЕІ

# У музеі працуюць толькі апантаныя

***50 гадоў таму Аляксандра Тарасік разам з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай на радзіме паэта ў Вязынцы адкрывалі філіял музея паэта.***

– Дагэтуль у доме, дзе нарадзіўся паэт, жылі бежанцы са Смаленска, Віцебска, – успамінае Аляксандра Антонаўна. – Пазней саўгас дапамог ім пабудаваць уласнае жыллё. Адразу штат у нас быў зусім невялікі. Работу не дзялілі. Усе разам і рамонт рабілі, і парадак падтрымлівалі ў музеі, і кожны экскурсію мог правесці. Елкі, што і цяпер растуць ля мемарыялу, пасадзіў мой муж, хаця і працаваў у саўгасе. Знойдзецца ў яго вольная хвілінка – адразу да мяне, каб дапамагчы.

***– Вы не карэнная жыхарка. Як апынуліся ў Вязынцы?***

– У 47–м сям'я пераехала з Варонежскай вобласці. Бацьку скалечыла вайна, доўга ён не пажыў. А ў маці нас было сямёра. Ужо тут я працавала загадчыцай фермы, потым звеннявой. Дарэчы, наша звяно ўзнагародзілі медалём за вырошчванне лёну.

***– Якія адносіны былі ў вас з Уладзіславай Францаўнай?***

– Гэтую жанчыну нельга было не любіць. Асабліва дзятва радавалася, калі яна прыязджала з Мінска. Цётка Уладзя частавала цукеркамі. А энергія ў яе была – агонь. Дапамагла арганізаваць саўгас імя Купалы, адкрыць клуб для моладзі (якому падарыла гармонік), сабрала для вёскі неблагую бібліятэку. Яна заахвочвала дзяцей вучыцца. Мы з мужам Віктарам Васільевічам выгадавалі пяцёра дзяцей (чацвёра сыноў і дачку). Дачка стала юрыстам, двое з хлопцаў – мастакамі. У гэтым і яе заслуга.

***– Работа ў музеі – гэта як хвароба?***

– У музеі могуць працаваць толькі адданыя справе. Многія работнікі адпрацавалі па 25 гадоў: загадчыца Лілія Баландзіна, Зінаіда Каспяровіч, Аляксей Себут. І моладзь, што прыходзіць, таксама апантаная – Ірына Трутнева праводзіць экскурсіі на чатырох мовах (беларускай, рускай, нямецкай, польскай). Тамара Бізюк не толькі "сядзіць на білетах", але, калі патрэбна, экскурсію правядзе не горш за прафесіянала.

*Надзея ЛІСАВА, Радашковічы.*



*Экскурсавод Нэла Званок (злева) і А. Тарасік.*



*Звяно Тарасік (Аляксандра Антонаўна другая справа)*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-33.*

## Трэбы па дэ–мойнаўску

За вянчанне, хрышчэнне, адпяванне ды іншыя царкоўныя абрады айцец Пётр грошы не бярэ.

– Мы ПАВІННЫЯ гэта рабіць для нашых прыхаджанаў!– падкрэсліў ён. – Яны ўжо нас падтрымалі – тым, што прыйшлі.

Бліжэйшая праваслаўная царква, дарэчы, у "дзвюх гадзінах язды" (тут часта можна пачуць падобнае вызначэнне адлегласці), таму канкурэнцыя жорсткая.

Што казаць, калі ў царкве прадугледжаныя спецыяльныя мяккія падстаўкі для каленяў – каб людзі не схілялі іх на цвёрдую падлогу. Пры лаўкі аўтар згадваў ужо.

Прыходзяць сюды 125 сем'яў – каля 400 чалавек. Ёсць муж з жонкай, якія нарадзіліся на Урале, працавалі ў маскоўскім Вялікім Тэатры. У Дэ Мойне яны кіравалі мясцовым балетам.

Праз колькі дзён мы ўдвух прыйшлі сюды на нядзельную службу. Убачылі ў царкве чорнага, прадстаўніцу Індыі з малым на руках. Не хапала тут хіба толькі лацінаамерыканцаў.

Айцец Пётр пазнаў нас сярод дзесяткаў чалавек, спецыяльна звярнуўся:

– Сёння ў нас прысутнічаюць госці з Еўропы. Я рады вітаць тут прадстаўнікоў далёкай краіны Беларусь (я правільна прамовіў назву вашай краіны?). З Андрэем я меў вялікую пазнавальную гутарку...

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 5.08 | 12.08 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 107,3 | **117,1** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | - | **364** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | - | - |
| Селядзец салёны | 1 кг | 50 | **49,5** |
| Рыс | 1 кг | 40 | **42** |
| Цукар | 1 кг | 28,3 | **31,5** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 75 | **95** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25,5 | **27,7** |
| Маянэз | 250 г | 25 | **25** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 75 | **85** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 27 | **35** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 33 | **40** |
| Лімоны | 1кг | 74 | **83,5** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 40 | **30** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 25 | **30** |
| Малако | 1 л | 9 | **9** |
| Бульба свежая | 1 кг | 10 | **12** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **35** |

## Скачок уверх

***На базары цэны на скачок долара адрэагавалі імгненна. Менавіта ў такія дні часта становіцца купляць у дзяржаўных, ды і не толькі, магазінах выгадней, чым у гандляроў на базары. Гандаль праз магазіны не рэагуе на кан'юнктуру так маланкава, як гандляр пад адкрытым небам з адной-двума сумкамі тавару.***

Парадоксы нашай (чытайдзяржаўнай) эканомікі акрамя ўсяго і ў тым, што мы можам гандляваць не на карысць сабе. Прыватнік такога сабе ніколі не дазволіць.

Спрагназаваць паводзіны цэнаў на базары нават у самае бліжэйшае будучае не бярэцца ніхто. Усе эксперты спасылаюцца на сітуацыю ў Расіі, дзе пасля ўсіх абяцанак-цацанак пайшла ўсё ж паўзучая, а за тым і дэклараваная, дэнамінацыя расійскага рубля. Не дапамагаюць і ўліванні Міжнароднага валютнага фонда, і абяцанні Ельцына з Чубайсам утрымаць сітуацыю пад кантролем. Расія!

Магчыма прадбачыць, што нават пасля верагоднага зніжэння курсу долара, не ўсе тавары памяняюць цэннікі на больш лагодныя для нашых кашалькоў.

**Мікола ГАЙДУК.**



*Нават бульбачка падаражэла ў апошнія дні. На маладзечанскім калгасным рынку у базарны дзень - 19 жніўня.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

ЗДАРЭННІ

## Трагедыя на газаправодзе

***ВАЛОЖЫН. Пры зварачных работах на газаправодзе Мінск-Вільня пацярпелі тры чалавекі.***

На трасе газаправода Мінск–Вільня ля вёскі Філіпіняты ў канцы мінулага тыдня сталічныя газавікі рэзалі трубу. У катлаване знаходзіліся двое зваршчыкаў. Перад работай, выконваючы ўсе правілы тэхнікі бяспекі, трубу перакрылі, і газ павінен быў сысці. Але, як толькі прарэзалі маленькую дзірачку, адбыўся выбух.

За 2 км вяскоўцы бачылі вогненны слуп. На здзіўленне, шкло ў бліжэйшых вёсках не павылятала. Зваршчыкі імгненна ператварыліся ў жывыя факелы. Начальнік, які кіраваў работай на паверхні, кінуўся ратаваць хлопцаў. Самы малады, 23 гады, зваршчык атрымаў 85% апёкаў. Самім урачам было жудасна – "чорны, як вугалёк, толькі боты вісяць". Ягоны напарнік пацярпеў не намнога менш. Начальнік апёк рукі і твар. Усіх пераправілі ў бальніцу Мінска.

**Васіль САВІЦКІ.**

## Згарэла КЗС

***ВІЛЕЙКА. Днямі ў вёсцы Лыцавічы (калгас імя Кірава) згарэла збожжасушылка. Заўважыў пажар у 2.50 ночы вартаўнік.***

Пажарныя, якія былі выкліканыя на здарэнне, утаймоўвалі агонь да 12.00. Акрамя кабеляў і рухавікоў, згарэла і колькі тон збожжа, што знаходзілася ў КЗС і якое не было магчымасці выратаваць.

Прычына ўзгарання, як паведаміла інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер,** у безнаглядласці ўстаноўкі – працавала без машыніста. Дзіўна, але гэта КЗС у калгасе была найбольш гарантаваная ад узгарання. Усе астатнія цеплагенерыруючыя ўстаноўкі выкананыя з парушэннямі тэхумоў, самавольна, без мер супрацьпажарнай аховы.

За час жніва ў Вілейцы і раёне за парушэнне правілаў супрацьпажарнай бяспекі прыцягнута да адказнасці 82 чалавекі, забароненая эксплуатацыя 1260 участкаў электраправодкі, 84 памяшканняў, 352 агрэгатаў.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Зялёная" інфармацыя

***ВІЛЕЙКА. Школьнік абакраў сям'ю свайго сябра.***

Жыхары Шылавічаў прыхавала долары ў кашолку для бялізны. Крыху пазней пачалі здзіўляцца, што ў суседзяў значна ўзрос узровень жыцця. А на самай справе растрачваліся іхнія ж грошы. Сын ведаў, дзе долары. Падзяліўся інфармацыяй з сябрам. А той расстараўся для сваёй сям'і.

**Вольга КІРЭЕВА.**

## Круты віраж

***МАЛАДЗЕЧНА. Сяргей К. спаліў жыллё суседзяў***

Школьнік палічыў, што ягонае здароўе сапсавалася. І нядрэнна было б пасядзець дома. А з той прычыны, што дома сумна, Сяргей нарабіў з паперы самалёцікаў. Падпальваў іх і запускаў з форткі 5 паверха ў паветра. "Знішчальнік" зрабіў круты віраж і заляцеў у адчыненую фортку двума паверхамі ніжэй. Знішчыў усю маёмасць, якая знаходзілася ў пакоі. Гэта здарылася ў інтэрнаце таварыства інвалідаў па зроку па вул. Ф. Скарыны.

А ў хлеў па вул. Маўчанскага дзятва прыйшла наведаць сабаку з маленькімі шчанятамі. Унутры было цёмна. Запалілі запалку. У выніку згарэў хлеў і шчаняты.

Сёлета за 7 месяцаў са 116 пажараў 17 адбыліся па віне дзяцей, са стратамі 84 млн. рублёў.

**Валянцін САПАЧ,**
**інспектар**
**дзяржпажнагляду.**

## Дрэва на дарозе

***ВІЛЕЙКА. Ведамасны мікрааўтобус маладзечанскіх бытавікоў ноччу ўрэзаўся ў дрэва на выездзе з горада ля вядомага вілейчанам «пятачка».***

Двое загінула на месцы – 38–гадовая жанчына і хлопчык, які толькі скончыў школу.

**Вольга КІРЭЕВА.**

## Бензапіла–гільяціна

***ВІЛЕЙКА. 25–гадовы жыхар вёскі Шылавічы, працуючы на пілараме, бензапілой адрэзаў сабе галаву.***

Ніхто не можа сцвярджаць, з–за чаго здарылася трагедыя – па неасцярожнасці, ці гэта было самазабойства.

**Вольга КІРЭЕВА.**

ІМПАРТ–ЭКСПАРТ

## Доля імпартнага харчавання знізіцца

***МІНСК. Да канца 1998 года доля імпартных прадуктаў харчавання ў агульным аб'ёме рэалізуемага ў рэспубліцы харчавання павінна знізіцца да 10 працэнтаў. Аб гэтым паведаміў на сустрэчы з журналістамі кансультант знешнеэканамічнага ўпраўлення Міністэрства гандлю*** **Вячаслаў Лявонаў.**

Па яго словах, бум на імпартныя харчовыя тавары прыпаў на 1996 год. Тады ў многіх магазінах іх доля складала 95--100 працэнтаў. Аднак "дзякуючы рашучым дзеянням міністэрства", якое абавязала прадпрыемствы гандлю мець у сваім асартыменце не менш за 75 працэнтаў айчынных тавараў, ужо ў 1997 годзе імпарт у агульным таваараабароце харчавання склаў толькі 12 працэнтаў. Больш таго, цяпер у многіх буйных універсамах сталіцы айчынная прадукцыя складае ўжо 90--95 працэнтаў асартыменту. Па словах В.Лявонава, гэта тлумачыцца тым, што, па-першае, беларуская прадукцыя больш танная за імпартную, а па-другое -- больш якасная, таму што "беларускія стандарты на харчовыя тавары значна больш жорсткія, чым у любой краіне Захаду".

Большасць з неайчыннага харчавання, што засталося на прылаўках, складае так званы "крытычны" імпарт, гэта значыць прадукты, якія ў Беларусі вырабіць нельга. Да іх адносяцца морапрадукты, алей, чай, асобныя найменні круп і іншыя тавары. Цэны на іх, лічыць В.Лявонаў, некалькі завышаныя, паколькі знаходзяцца ў залежнасці ад курсу долара. Да таго ж, па яго словах, замежным пастаўшчыкам "цяжка растлумачыць, што ў Беларусі існуе ўказ прэзідэнта, згодна з якім адпускныя цэны нельга ўзнімаць вышэй за 2 працэнты". Тым не менш, прадстаўнік міністэрства запэўніў, што Мінгандаль "ніколі не дапусціць", каб з'явіліся перабоі з якім-небудзь з тавараў, у тым ліку -- і імпартных.

**Юрый ПАЦЁМКІН,**
**БелаПАН.**

## Суседзі ствараюць дэфіцыт

***АШМЯНЫ. У мінулую пятніцу, як, бадай, і ў наступныя дні, перад мясцовымі аўтааматарамі ўзнікла пытанне: дзе запраўіць свае аўто?***

Справа ў тым, што ні на адной з запраўчных станцый, якія знаходзяцца ў горадзе, зрабіць гэта было немагчыма з–за адсутнасці бензіну. Выйсце многія аўтааматары знаходзілі ў суседніх Астраўцы і Смаргоні, хаця гэта было і нязручна. І хаця адсутнасць бензіну на запраўках тлумачылі ўборачнай кампаніяй, тым не менш, у некаторых аўтааматараў ёсць асабісты погляд на гэтую праблему. Звязаны ён з тым, што на запраўкі прыязджаюць літоўцы і скупляюць бензін. Можна да гэтай высновы паставіцца па–розным, але калі ўлічыць, што бензін за мяжой (прынамсі, ў Літве) каштуе ў два разы больш, чым у нас, то выказаная версія таксама мае права на існаванне.

**Алесь СВІРЧУКОЎ.**

НАБАЛЕЛА

## Жывем, як у зале чакання

**Марыя Ліванові,**
жыхарка Маладзечна,
вул. Будаўнікоў, д.16,кв.42.



Цагляная сцяна дома паміж 2 і 3 пад'ездамі разбураецца. Мы бачым, што ўтварылася пагроза зрыву нашых балконаў. Разбураецца тое месца, дзе балконы ўмацаваныя. Цэгла вывальваецца кавалкамі, асабліва ў сырое надвор'е. Мы звярнуліся ў ВА ЖКГ "Камунальнік", ЖЭУ №4, якое абслугоўвае наш дом. Нам сказалі зняць шкло з балконных рам, каб, рамантуючы сцяну, яго не пабіць. Знялі. І вось у такім стане знаходзімся 5 тыдняў. Жывем, як у зале чакання. Праўда, мы час ад часу турбуем тэлефоннымі званкамі тых, хто адказвае за жыллёвы фонд. Але як нічога не рабілася, так нічога і не робіцца.

***Запрашаем чытачоў стаць удзельнікамі нашай рубрыкі.***

## Рэдка, калі кіраўніка называюць "ідэальным"

***ВІЛЕЙКА. Але менавіта так кіраўніка ААТ "Буддэталь" Сяргея Жука называюць яго работнікі. Заработкі на прадпрыемстве самыя вялікія ў наваколлі.***

Штогод кожны работнік і пенсіянер бясплатна атрымлівае па 300 кг бульбы, 25 кг цыбулі. Сёлета па сабекошце работнікам прадалі па мяху цукру. Пенсіянерам напалову менш.

Вось і нядаўна нікога не абышлі ўвагай. Работнікі атрымалі прэмію ў памеры 500 тысяч. А ветэраны прадпрыемства (якія прапрацавалі больш за 20 гадоў) – па 800 тысяч.

Прэміравалі таксама школьнікаў (іх было 22), якія на канікулах тут працавалі. Кожны з іх атрымаў па 200 тысяч.

Ветэраны вайны, пенсіянеры атрымалі па 2 мільёны да Дня Перамогі.

Калі чалавек збіраецца ў адпачынак, разам з адпускнымі яму выдаюць матэрыяльную дапамогу: 6 мінімалак тым, хто яшчэ 5 гадоў не працуе на прадпрыемтсве, 12 мінімалак тым, хто перакрыў гэты тэрмін.

А ў сваім фірменным магазіне можна нешта купіць у крэдыт. Як і пад'есці ў сталоўцы.

**Вольга КІРЭЕВА.**

ТЭЛЕФОН МІЛІЦЫІ 02

## Устанаўліваецца асоба

Маладзечанскім аддзелам унутраных спраў на транспарце ўстанаўліваецца асоба трупа мужчыны, знойдзенага 06.08.98 г. на прыпынку Крыніца. Яго прыметы: на выгляд 45–50 год, рост 175–180 см, сярэдняга целаскладу, валасы цёмныя з сівізной сярэдняй даўжыні, ёсць лобныя залысіны, твар авальны, бровы дугападобныя, вочы блакітныя, нос шырокі, прамы, аснова носа апушчаная, вусны сярэднія. Быў апрануты: світэр зялёны з арнаментам белага і сіняга колеру ў выглядзе ромбаў, майка спартыўная сіняга колеру, джынсы сінія, туфлі шэрыя. Асобыя прыметы: на рабры далоні правай кісці татуіроўка "Міша", на грудзях з левага боку татуіроўка ў вобласці сэрца ў выглядзе чайкі, на плячы левай рукі татуіроўка ў выглядзе рукі з запаленым факелам і краты, уверсе надпіс на замежнай мове "селяві".



***Просім грамадзян, якія што–небудзь ведаюць пра асобу неапазнанага трупа мужчыны, паведаміць у Маладзечанскі АУСТ па тэл. 42357, 42416, 70986 або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэл. 02.***

